Przesyłka opłacona gotówką 40%.

Цана асобнага нумару 15 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№ 5 | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская 8—8. | Вільня, 10-га жніўня 1933 г. | Выходзіць два разы ў месяц. | Год I.

Цана абвестак паводле умовы. | Прыймо інтарэсантаў ў рэдакцыі штодзень ад 9-й да 4-й гадзіны. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: у месяц—25 гр., у 3 » —70 », у ½ года—1.30, у 1 год —2.50

## Сапраўдны твар дабрадзеяў.

„Супярэчнасьці паміж Нямеччынаю і СССР зьяўляюцца найбольш яскраваю супярэчнасьцю паміж усей Эўропаю і СССР.“ і далей „...супрацоўнічаць над адбудоваю ўласнага гаспадарства і цэлага сьвету, Украіна гатова з Нямеччынаю, як і з кожнаю іншаю вялікаю дзяржаваю“...

*М. Донько. „Діло“ од 2. VII. 33 г.*

Вышэй прыведзеныя радкі ўзяты з цэнтральнага воргану У. Н. Д. О. (украінскіх нац. дэмакратаў). Яны напісаны ў артыкуле абгаварываючым плян Гітлера-Розэнберга, які мае на мэце, шляхам вайны, адарваць ад С.С.С.Р. Украіну і Беларусь і стварыць з іх Украінска-Беларуска-Літоўскую дзяржаву, ведама пад пратэктаратам (апекай) гітлероўскай Нямеччыны.

Вялікія дзяржавы, з бацькаўскай мінай на твары, любяць праяўляць „дабрату“ апекі, над „адсталымі, цёмнымі, эканамічна слабымі“ народамі.

На нашых вачох Японія праз дзесяткі і сотні тысяч трупаў нясе свае „турботы“ многаміільённаму Кітаю. Англія, якая мае 40—45 мільёнаў свайго насельніцтва, трымае пад аховаю, спэцыяльна утвораные паветранае флёты і арміі, 360—400 мільёнаў каляніяльных народаў (у Індыі і Афрыцы). Іх мае также і Францыя.

Ня толькі нізы Украінскага і Беларускага народаў, але цэлы сьвет ведае смак апекі, смак „дабраты“ і „турбот“ моцных над слабымі пры сучасным ладзе, пры сучасных грамадзкіх адносінах. Яны, нізы народныя, ведаюць гэта і дзякуй ім кажуць таму, хто хоча прадаць іх за срэбранікі!

Каму-ж патрэбен плян Гітлера і Розэнберга, калі яго ня хочуць тыя, хто здабывае багацьце?

Каму патрэбен плян, які нясе вайну і прыгнечаньне?

Ен не патрэбен працоўнаму народу,— яго чакаюць і ня могуць дачакацца тыя, чые інтарэсы супольны з інтарэсамі Гітлераў і Розэнбергаў.

Украінскія нацыяналістыя не адны; яны маюць сваіх супольнікаў на З. Б. ў постаці хрысьціянскае дэмакратыі, якая праз свой ворган „Беларускую Крыніцу“, вельмі радасна прывітала гэты плян і яго герояў — Гітлера—Розэнберга. Нічога тут дзіўнага. Як тыя так і другія гандлявалі і надалей гатовы гандляваць будучыняй Украінскага і Беларускага сярмяжнага люду.

Гэтыя дабрадзеі падобны да кітайскіх гэнералаў, ідуць з мацнейшымі, з тым, хто больш дасьць. Яны пойдуць на ўсё, абы не дапусьціць самога народу да вырашэньня свайго ўласнага лёсу!

Для асягненьня „благародных“ мэтаў, яны гатовы супрацоўнічаць з гітлераўскай Нямеччынай, таксама як з кожай іншай вялікай дзяржаваю капіталістычнага сьвету.

Яны хочуць супрацоўнічаць на славах для „карысьці“ народа, нават асьмелівавающа заявіць, працоўнага народа, а ўзапраўды дамагаюцца непаддзельнага яго вызыску, яшчэ большага прыгнечаньня!

Такія мэты ставяць перад сабою ўкраінскія нацыяналістыя, нашы дамарошчаныя „Хадэкі“, і „санатары“—Станкевічы і Луцкевічы.

Той, каго хочуць абмануць, загаварыўшы зубы, вырас. паразумнеў, бачыць якую страву гатуюць хадэцка-санатарскія кухні, бачыць, як спрытна круцяцца каля катлоў кухары ў белых каўпаках і з белымі думкамі.

Яму, гэтаму вырасшаму чалавеку, ня трудна параўнаць прывітаньня плянаў Гітлера з хадэцка-санацыйным прывітаньнем Вільгельма і аўстрыйскага манарха ў 1918 годзе праз утвораны ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі (Б. Н. Р.).

Ня трудна таму, што народ наш вырас, думае, слухае сваіх правадыроў, хоць прымітыўна, але-ж разважае, і разважае так: „О! значыць Гітлера і яго пляны вітаюць хадэкі разам з ксяндзом Станкевічам за тое, каб Гітлер прыйшоў да нас на Усход! Цікава! А пасьля, каб забраў Б. С. С. Р., злучыў нас, спаліў пры ксяндзоўскахадэцкай дапамазе вялізарныя культурныя здабыткі Усхода. Вельмі цікава!...

Ну, а потым стаў будаваць канцлягеры дзеля нас... Бачым куды пруць!“

Так па простаму, але зразумела, разважае наш Беларускі працоўны народ.

Так разважаючы, ён не дасьць сябе абмануць. Не зойдзе з абранага шляху, а пойдзе ім наперад, сам вырашаючы свой лёс лепшага заўтра.

## Супольнага пункту няма.

Значэньне культуры (асьветы) аграмаднае. Там, дзе культура вышэйшая, гэта значыць, дзе прынамсі ўсе ўмеюць чытаць і пісаць, дзе шмат людзей маюць сярэднюю, а нават і вышэйшую адукацыю, ўсё іншае выглядае іначай. Падумайце толькі, як бы іначай выглядала Заход. Беларусь, каб наш працоўны народ умеў чытаць і пісаць, мог выпісаць сваю родную газэту, чытаць кніжку, належаў да сваіх культурна-асьветных, гаспадарчых і коопэратыўных арганізацыяў. Як сьмела і адкрыта маглі-б беларусы прад'яўляць свае дамаганьні, як стойка і непарушна маглі-б за іх змагацца, лягчэй пазнаць, хто іх вораг, а хто прыяцель,крыкнуць: „прэч з дарогі абібокі“!—ўсім тым, што пры дапамозе беларускага слова здраджаюць інтэрэсам яго народу. З намі куды іначай лічыліся-б, наша будычыня была-б куды бліжэй. Вось чаму мы ў нашай газэце і заклікаем да дамаганьня сваіх родных беларускіх школаў, да самаадукацыі. І мы верым моцна, што заклік наш не заглохне, што ён знойдзе шырокі водгук у народных масах.

Культурны фронт гэта частка беларускага фронту, а не беларускі фронт у цэлым. Але да нас прыходзяць людзі і усхваляюць сябе, як вялікіх знахароў і дахтароў па-беларускім пытаньням. Яны кажуць:„Мы пераджываем пэрыяд палітычнае і соцыяльнае стабілізацыі і зацішша“ і што „ўсе нашыя сілы мусяць быць скіраваны на культурны фронт“. Даслоўна: ўсе сілы. Пры тым людзі гэтыя (з „Роднага Краю“ на чале з Луцкевічам) і сапраўды нібы адмовіліся ад усялякай палітыкі. Ня выдаюць палітычай газэты, заклікаюць закладаць „культурныя” арганізацыі (ТБА), ладзяць „культурныя“ акадэміі, словам усё згодна з тым, што пішуць, усе сілы аддаюць на культурны фронт. Нічога здавалася-б ня трэба нам рабіць, як падаць руку гэтым „галубком“ і супольна ўзмацоўваць культуру беларускіх народных мас.

Аднак справа выглядае ня так. Лёзунг, усе сілы на культурны фронт, абазначае для тых, хто яго кідае, ні што іншае, як толькі тое, што ўсе другія фронты для іх ужо праіграны, што поле іх незайздроснай працы настолькі звузілася, што ім застаецца толькі мармытаць аб культуры, паэзіі, навуцы, падымаць гоман навокал культурнай акцыі, каб гэтым заглушыць галасы тых, якія ня хочуць іх, якія уважаюць іх за няпрошаных апякуноў, за людзей, якім ня было, няма і ня будзе месца ў нацыянальнай працы беларускага працоўнага народу. Вось чаму нічога ў тым дзіўнага, што для адных культурны фронт зьяўляецца часткаю агульнага беларускага вызваленчага руху, для другіх—апошняя дошка ратунку. Для адных—гэта праца з народам і для народу, для другіх—гэта праца над народам і супроць народу. Для адных культурны фронт—гэта ня толькі пашырэньне асьветы і культуры, але і ачышчэньне дарогі ад тых, хто з славамі культурна-асьветнай працы нясе ў народ цемру і ашуканства, — для другіх—падшываньне пад культуру і асьвету, гэта авечая шкура, якую накладае воўк. Зразумелая рэч, для адных гуртаваньне культурных сіл неразлучна звязана з ачышчэньнем іх ад шкоднікаў і гнабіцяляў сапраўднае народнае культуры,—для другіх—гуртаваньне азначае супольную „работу“ гэтых шкоднікаў у культурных радох. Адны гардзяцца сваею культурнаю працай, бо яна ідзе па лініі інтарэсаў беларускага народу і яго руху,— другія „хваляць“ культурна-асьветную працу, асоб і арганізацыі, бо гэтае хваленьне выгадна ім для маскаваньня сваей работы супярэчнай з беларускім рухам. У адных адзін пункт гледжаньня на культурны фронт, а ў другіх зусім іншы. Пункту супольнага няма і быць ня можа.

Вось як выглядае культурны фронт. Ен адзін і складаецца з шчырых ахвярных беларусаў, якія хочуць працаваць з народам і для народу, якія ня толькі не жадаюць, але і ня могуць лучыцца з тымі, хто паказаў сябе на працягу доўгіх гадоў праціўнікам сапраўднага беларус.-культурнага руху. Сапраўдныя барацьбіты беларускага народу ня хочуць згубіць сваяго здаровага, грамадзкага народнага аблічча, згубіць свой народ... Яны былі, ёсьць і застануцца вернымі яму да канца.

*С. К.*

## Памятаваць і бачыць.

Кожды год, як толькі наступіць вясна і лета, у паветры мы бачым усе часьцей і часьцей узьняўшыхся ўгару сталёвых птушак.

У гэтым годзе падыймаюцца цэлыя эскадры, дзесяткі самалётаў робяць заакіянскія палёты.

Можа людзі проста так бавяцца, знаходзяць адпачынак і задаваленьне ў віхурах над зямлёю? Не, гэта ня так, жыцьцё нам кажа другое.

Заўтра можа быць страшным.

Былы міністар вайсковых спраў Бэльгіі Крокоэрт прыводзіць лічбы гэтых забаў.

Вось яны красамоўныя.

Паветраны флёт зара, як ніколі, стаў узброяным. Тып самалету „Юнкерс Г 38“ можа забраць з сабою 5000 кілё бомб, другі тып „Д. О. Х.“ здольны падняць 10,000 кілёграм. У пудах гэта будзя выглядаць так „Юнкерс Г 38 300 пуд „Д. О. Х.“ 600 пудоў.

Нам добра памятна сусьветная вайна. Памятны сьляды самалётаў, якія руйнавалі нашы вёскі, гарады. Гэта было 19 год таму назад, тады калі самалёт мог з сабою ў гору падняць самае большае 400 кілё, альбо 24 пуды. Параўняйце мінулае з сёняшнім, 24 і 600.

Вось забавы і адпачынак!

Пад час імпэрыялістычнге вайны былі ўсім вядомы пажарныя бомбы весам у $2\frac{1}{2}$ кілёграм. Такім чынам, каб спаліць вялікі горад трэба выпусьціць 20 самалётаў „Юнкерс Г 38“ альбо 10 „Д. О. Х.“ гэтая колькасьць сталёвых птушак зможа падняць 100,000 пажарных бомб. Думайце самы, аб тэй жудасьці, якую могуць яны нарабіць з мірным людам.

Людзі, што займаюцца вопытамі, вывучэньнем сілы паветранае флёты, сцьверджаюць: 25 газавых бомб хопіць, каб на плошчы ў 1 квадратны кілёметр усе жывое было задушана.

Калі вылічыць, што плошча Парыжа—сталіцы Францыі—складае 100 кв. кілёметраў, то дойдзем да такога вываду: 500 апаратаў „Юнкерс Г 38“ альбо 250 „Д. О. Х.“ хопіць, каб жывы рухлівы з мільённымі жыхарамі Парыж стаў сплашным мейсцам сьмерці, стогнаў і жудаў.

Так выглядае будычыня сёняшніх паветраных „забаў“ і „адпачынкаў“.

Такою будзе новая сусьветная вайна, якую рыхтуюць фашысты—Гітлеры-Розенбэргі — сучаснаму грамадзтву.

Гэта трэба бачыць, думаць аб сваім мейсцы ў ёй.

*К...*

**Прыпамінаем нашым паважаным падпішчыкам, што ўсім, хто ня прышле падпісной платы, па атрыманьні № 5, спынім высылку „Беларуск. Газэты“.**

*Адміністрацыя.*

# Зачынілася.

Лёнданская эканамічная конфэрэнцыя, аб якой мы ўжо ня раз пісалі, пасьля 7-мі тыднёвага істнаваньня спыніла сваё жыцьцё.

Які вынік гутарак?

Да чаго дайшлі тыя, што зьехаліся з розных канцоў сьвета ў каралеўскую сталіцу, маючы на мэце спыніць крызіс, з чым яны вяртаюцца да сваіх дзяржаваў?

Прыйшлі яны, ні да чаго. Вяртаюцца з мінамі бабуляк, старых цётак, пахаваўшых нябошчыка, які пасьля сябе нічога ні аставіў, апрача жалю і роспачы. Кароль Георгі (ангельскі) на зачыненьні конфэрэнцыі не прысутнічаў. Над яе труною трымаў прамову Мак-Данальд. Верны сабе, стараўся зґладзіць ўражаньне, парываючa, з жалем казаў: „Наша сяняшняя конфэрэнцыя аставіла сьлед...“, а потым удавадняў паправаў гаспадаркі...

Мы згаджаемся. Правідлова, — яна заставіла сьлед, але-ж сьлед не паправы, а безнадзейнасьці, роспачы, сьлед грымас на тварах сабраўшыхся, больш чым іншая, другая адбыўшая сваю чаргу конфэрэнцыя.

Сапраўды, яна паказала муры, праз якія ратунак Лёнданскіх дэлегатаў не ў стане пералезьці, каб яны нават хадзілі не 7 тыдняў каля іх, а ўсё жыцьцё. Гэтыя муры пад сілу тым, чые рукі здабываюць багацьце.

Ці будзе зноў склікана для далейшай працы Лёнданская канфэрэнцыя і калі? На гэта пытаньне, караспадэнту „Gazety Polskiej“, даў такі адказ адзін з удзельнікаў канфэрэнцыі, прадстаўнік вялікай дзяржавы: „Трудна патрабаваць ад нябошчыка, каб ён устанавіў дату свайго змертвых уставаньня“...

Дзіця радзілася, моцна крычала, мелі надзею пэўныя людзі, што будзе асілак. Дарэмна. Маміна і татава хвароба, зьвялі яго з сьвету. Памерла небарака, не вызначыўшы часу ўспамінак.

Канфэрэнцыя памерла, а крызіс жыве. Жывучы Дзед! Жыве, ідзе наперад.

Ангельскія, Французскія і Японскія прадстаўнікі проста з паседжаньня пайшлі да арсеналаў зброі.

Сьпяшаюцца, бегаюць. Час кароткі: у Індыі падняліся індусы. Небясьпека! У паветра ўзьняліся самалёты, кідаюць бомбы, рвуць жанчын і дзяцей.

У французскай каляніяльнай арміі загавор. Прымаюцца меры: арышты, турма.

На манджурскіх палёху, у Кітаі, выступіў проці гаспадараваньня Японіі гэнэрал Фэнг.

Эшалоны войск, арматы, танкі, самалёты і кароткі загад: „Задушыць!“

У такіх умовах закончыла сваё жыцьцё Лёнданская гаварыльня.

Яна не жыве, а крызіс усе далей і далей ідзе!

*Я. Буды.*

**Ты падпісаўся на „Беларускую Газэту“?**

# Баяцца міру.

„Беларуская Крыніца“ піша: „Літвінаў — Савецкі камісар заграгічных спраў у між часе таксама не драмае, а забясьпечваючы саветам плечы на выпадак, калі-б прышлося счапіцца за чубы на Усходзе з Японіяй, лоўка туманіць головы дыплёматам захаду...“ Так хадэкі аценілі догавар 8-мі дзяржаў з Савецкім саюзам, які ўзапраўднасьці палепшыў узаемаадносіны, сказаў сваё слова аб акрасьленьні нападаючага і паказаў яшчэ раз мірную палітыку СССР. Што хадэкам да гэтага? Яны хочуць—гэта іх мэта — праз сваю газэту зразумелыя ясныя рэчы затуманіць у галавах сваіх чытачоў.

Да праўды, сьмешным робіцца выступленьне супроць добра-суседзкіх адносін паміж народамі—СССР і Польскім народам. Яны гэтыя самыя хадэкі пішуць:

„... а адведзінам розным дык і канца няма... яшчэ не выехаў Собэлсон (К. Радэк) як прыехалі двумя дарогамі два Савецкіх лётнікі, і то самыя(!?) камандзеры. — На каго цяпер чарга?“ пытаюцца яны.

Мы думаем, чарга на яшчэ большае ўзмацненьне культурна-гаспадарчых узаемоадносінаў, ад чаго, як Савецкі, так і Польскі працоўны народ нічога не страціць. Ведама гэта хадэкам — Станкевічам не панутру, яны хацелі-б вайны, гэта іх мары, жаданьні і таму яны маўчаць, вітаюць пляны Гітлера-Розэнбэрга і згаджаюцца з пактам 4-х, у аснове якога ляжыць вайна за перадзел міра, на карысьць сусьветнага капіталу.

Працоўны народ Беларусі гэта бачыць і, параўнаўшы словы з іхнімі чынамі, патрапіць даць запраўдны свой адказ.

*А. Камарыха.*

# Заварушыліся.

Ворган расейскіх белагвардзейцаў у Парыжу «Возрожденіе» у нумары ад 8 чэрвеня піша:

„У Эўропе паднімаецца штандар барацьбы проціў камуністычнай навальніцы. Яго ўзносіць Гітлер! Небылі-б мы расіянамі, калі-б мы не прывіталі гэтага штандара“.

За вышэй прыведзенымі славамі ідуць чыны. Гэнэралы не прывыклі доўга думаць. Яны гатовы на ўсе. Умеюць прыняць рашэньня — зьнішчыць «крамолу».

У сувязі з гэтым ангельская газэта «Дайлі Гэральд» даносіць: «Гітлер арганізоўвае дывізыю «белых войск». Далей ідзе наступнае паведамленьне.

«У вайсковым абозе, каля Ютэнбэрга ў паблізку Брандэрбурга, праводзіцца абвучэньне 2000 белых эмігрантаў. Яны абвучаюцца праз афіцэраў Нямецкае арміі, але камандаваць будуць былые расейскіе афіцэры і гэнэралы.

Па скончэньні абвучэньня першае партыі прыступяць да другіх 2000 і так далей пакуль небудзе набрана 12,000 чалавек, каб такім чынам арганізаваць цэлую дывізыю.

Яна будзе аказваць практычную дапамогу ў ажыцьцяўленьні палітыкі Гітлера, у «колёнізацыі» Савецкага Саюза і Усходняе Эўропы, аб якой так адкрыта дэклямаваў Гугэнбэр у сваім вядомым для ўсіх мэмарандуме».

Адным словам заварушыліся.

# Лета.

О, лета, прыгожая года часіна!
Зямелька прыбрала з прыходам тваім
Абшар сенажацяў. Хвалюе збажына
І радуе сэрца аздобам сваім.
Сьмяюцца калосься пад сьпекаю сонца,
Зямліцы радзімай шлюць нізкі паклон;
Іх сьмех у прасторах да хатак ваконца
Даходзіць,—да хатак, дзе нендза і стогн.
А хвалі на ніве, як-бы на тым моры,
Адна адну гоніць і жывяць яго.
І губяцца ў хвалях загонаў разоры,
Як быццам сабою чаруюць каго.
Ой люба паглянуць на сівыя хвалі!
І радасьці поўныя вочы людзей,
Людзей, што на ніве вось тут працавалі,
І працы паклалі тут многа сваей!
Думныя вочы, сталёвае сэрца!..
Рукі, зямля, новы дар...
Як мора, калышацца збожа каберца...
Галодным жыве гаспадар.
О лета, прыгожая года часіна,
Як люба глядзець на твой твар!
Хвалюе ў грудзёх, як хвалюе збажына,
І хочацца бачыць жыцьцё нашых мар.

*Пятрусь Граніт.*

# Пад знакам тэрору.

Пруская рада міністраў пад непасрэдным кіраўніцтвам Герынга зацьвердзіла статут, які мае на мэце: 1. Запэўніць ахову для прадстаўнікоў-гітлероўцаў, паліцыі, штурмавых атрадаў і „стальнога шлема“, 2. Выхаваньне грамадзтва ў кірунку безумоўнага падпарадкаваньня аўтарытэту ўраду і 3. Застасаваньне да дэкляацыі Гітлера ад 15-VII г. г., якая кажа аб канчатковай перамозе і аб тым, што рэвалюцыя ўжо закончана.

Далей ідуць прапановы аб застасаваньні самых жорсткіх мер супраць тых, хто захоча разьвіваць рэвалюцыю, альбо хоць падумае аб якой то другой рэвалюцыі. Ставіцца пытаньне пашы-

*Зварачаемся да ўсіх, хто працуе ў абшарнікаў і вясковых багачоў прыслаць нам, хоць у складчыну, весткі аб варунках Вашай працы і платы, аб абходжаньні з Вамі і г. д. Будзем шчыра ўдзячны.* *Рэдакцыя.*

# Пакт 4-х падпісан.

Нашумеўшы пакт 4-х стаў фактам. Мужы вялікіх дзяржаваў: Англіі, Францыі, Італіі і Нямеччыны, дзяржаваў з процілеглымі зусім замерамі, падпісалі яго апошнімі днямі з поўнай урачыстасьцю ў Рыме.

Ці-ж можна было думаць год, два таму назад, што на адным палітычным дакумэнце паложаць свае подпісы: Паўль Банкур і Мусоліні, Гітлер і Паўль Банкур, не кажучы ўжо аб спрытным дзерыжоры Мак-Данальду.

Бязумоўна, разумныя палітыкі яшчэ задоўга да панаваньня Гітлера прадбачылі такую магчымасьць; яны паказвалі пункт аб'едныаючы іх, алеж адначасова ніколі не ўпускалі з віду тых супярэчнасьцяў, якія істнуюць паміж: Францыяй і Нямеччынай, Італіяй і Францыяй, паміж Англіяй і Францыяй. Гэты клубок розных інтарэсаў нязможа загладзіць ніякі пакт.

Гутаркі аб гістарычнай паперцы вяліся побач з праходзячай сьвятовай Лёнданскай Эканамічнай Канфэрэнцыяй, побач з „неперарыўнай“, ні да чаго не прыводзячай канфэрэнцыяй па разбраеньню (праўдзівей—стверджаючай факты ўзбраеньня). Усе гэтыя замеры нішто іншае, як спробы стабілізацыі капіталізма, шуканьня імперыялістычнага выхаду з крызісу, які з каждым днём усё мацней цісьне, усё больш і больш пагражае падставам істнуючага ладу.

Прыпамятуем сабе кароткую гісторыю гэтага пакту і яго герояў. У Нямеччыне прыйшоў да ўлады Гітлер, на штандары якога было напісана: „Вайна Марксызму“, „раўнапраў'е гітлероўскай Нямеччыне ў Эўрапэйскай сямьі“, „раўнапраў'е узбраеньня“. Гэта значыла развенчаць Вэрсальскі дагавор, перасунуць граніцы, вярнуць калёніі. Эўропа больш чым калі стала бочкаю, наладаванаю порахом: вось, вось выбухне, падыме ўсё ў паветра, зробіць руінамі здабыткі вякоў.

На арэну зьяўляецца ў поўным рыштунку пажарніка даверaны муж каралеўскага дома, вядомы Мак-Данальд. Мак-Данальд—Англія спачуваюць Гітлеру, дыплёматычна прызнаюць, што ведамыя папраўкі ў Вэрсальскім дагаворы трэба рабіць. Усё гэта і афіцыяльна і не афіцыяльна. Ведамым становіцца адно: Мак-Данальд, як той «Ванька-Устанька», на цудо-дыване носіцца ад Лёндана да Рыма і з паваротам. Раніцай ён сьнедаў у Лёндане, вячэру спраўляе ў палацах Мусоліні. Гэтым-жа часам, як дагаварыўшыся, кансэрватары рвуць тарговы дагавор з Сов. Саюзам. Гітлер граміць «Дэррол», катуюць савецкіх грамадзян у Нямеччыне. Да Лёндану едзе Розэнберг. Гэты ня ўдалы палітык, адкрыта прыймае захады, каб дагаварыцца, пайсьці вайною проці Усходу, задушыць Саветы. Паціраюць рукі, кроў балянсуюць з золатам, смакуюць, якія багацьця, што можна здабыць. Розэнберга прыймаюць кіруючыя колы, робяцца банкеты, выказваюцца прывітаньні, завярэньня...

Але па своему паздраўлялі гітлероўскага героя шырокія масы працоўных Англіі і другіх краін.

У такіх умовах нарадзіўся, абгаварваўся і застаў падпісаны пакт 4-х вялікіх дзяржаў.

Аднак, што прывяло да зьмены яго тэксту ў параўнаньні з першым тэкстам?

На гэтае пытаньне будзе дадзены адказ, калі заглянем за кулісы дыплёматыі і ўбачым, у якім становішчы апынулася Францыя. Яна папала ў паласу двух супярэчных агнёў. З аднаго боку ад уласных саюзьнікаў, як Польшча, Малая Антанта, якія выступілі супроць пакта, па іхняму ліквідуючага Лігу Нацыі, рэвізуючага Вэрсальскі дагавор, пагражаючага іх граніцам, якіх Францыя ня хоча згубіць; з другога: Гітлер вельмі замоцна, ад самаго пачатку, павёў атаку на муры Вэрсалю, чым узмоцніў сілу адпорнасьці саюзьнікаў. Такім чынам і шкада згубіць старых саюзьнікаў і хочацца быць за сталом вялікіх дзяржаў.

Англія выступала „пабочным“ судзьдзею, выкарыстоўвала супярэчнасьці, але старалася недапусьціць да вайны паміж імпэрыялістамі ў Эўропе на падставе перагляду і абароны Вэрсальскага дагавору. Яна стараецца вырашыць спор паміж Францыяй і яе саюзьнікамі, з Італіяй і Нямеччынай, шляхам паходу нямецкага фашызма на Усход.

Зразумелая рэч, паміж Францыяй і Нямеччынай з Італіяй з усяго пералічанага выцякае небясьпека вайны.

Пакт 4-х ёсьць спробаю часовага аддаленьня яе паміж чатырмя дзяржавамі. Але-ж з яго не выцякае, што сьвет гарантаваны мірам на 10 гадоў, як стараюцца размаляваць яго тварцы!

Пакт 4-х прычын нарадзіўшых яго з парадку дня не зняў. Не знята з парадку дня і рэвізыя граніц. Рэвізыя граніц ў умовах капіталістычнага ладу азначае падзел сьвету, атрыманьне тэрыторыі аднымі за кошт другіх. Моцнымі за кошт слабых. Таму, барацьба за рэвізыю граніц, ёсьць запаветам новае сусьветнае вайны.

Так, а не іначай.

Ангэльскія кансэрватары, гэтыя галоўныя махляры пакту 4-х, бачаць у ім узмацненьне сваіх пазыцыяў, супроць свайго акіянскага ворага — Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі. Аднак, галоўную мэту яго, каралеўскія дыплёматы бачаць у паходзе на Сав. Саюз. Яны адною рукою падпісваюць пакт, другою садзейнічаюць японскім гэнэралам ў узбраеньні і прыгатаваньнях да нападу на Забайкальскі край, на адарваньня Далёкага Усходу.

Пакт 4-х гэта не пакт міру, а пакт, яшчэ больш чым калі раней, адкрытай падрыхтоўкі да вайны. Праз яго хочуць выйсьці з крызісу, пасунушысь на Усход. Коштам Усходу, надзяліць пакуль што малыя дзяржавы, каб потым і іх праглынуць у сваю пасьць.

Гэтага здаровы розум працоўнага народу, умысловых працоўнікоў ня можа ня бачыць!

Ня можа ня бачыць, што Гітлер за перагляд граніц і надалей, Францыя і саюзнікі проціў. Англія выкарыстоўвае супярэчнасьці,—будучы арбітрам і арганізатарам паказвае шлях на Усход, не выпускаючы з вока свайго адвечнага ворага—Амэрыку. Розныя партыі да соц.-дэмакратаў заняліся хатнімі справамі, справамі узбраеньня, справамі аховы сучаснага ладу. Працуюць так як 1914 годзе.

Гэта трэба бачыць! Далейшы лёс пакту 4-х будзе залежыць, ад паглыбленьня крызісу, растаноўкі проціўлеглых сіл, а ў першую чаргу ад разьвіцьця сацыяльных супярэчнасьцяў і рухаў у Нямеччыне!

*К—сь.*

рэньня сьмяротнае кары проціў усіх „вывратовых“ дзеяньняў „як словам, так і чынам“.

Сьмяротнымі дэкрэтамі, прысудамі нямецкі фашызм хоча прыдушыць голас-лемант шасьці мільёнаў безработных і тых, хто нязгодзен з сярэднявечным урадам.

Гэтымі захадамі Гітлерызм рыхтуе вайну супраць Усхода.

Ен хоча праглынуць малыя дзяржавы, зьнішчыць бальшавізм, спаліць на Чырвоным Пляцу, як паліў у Бэрліне, культурныя здабыткі грамадзтва.

Можна марыць аб многім, можна маляваць пляны, пісаць дэкрэты, стасаваць сьмерць. Але ўсё гэта будзе бязсільна, калі яны стасуюцца меньшасьцю да пераважаючай большасьці. Яна, меншасьць, будзе бязсільна зьнішчыць істнуючы стан рэчаў,—гэта значыць спыніць крызіс, зьліквідаваць безрабоцьце, даць працу, хлеб, права.

Гэтага немяцкія фашысты ня могуць даць! Яны могуць даць тое, што дало 9-га студзеня і пазьней рускі царызм: сьвінец, смерць, краты.

Гісторыя рускага манарха зразумелая. Мы яе бачылі; бачылі, кім і як яна рабілася.

Заўтра мы будзем бачыць курчы чорных кашуль, іх сьмяротную агонію.

Сёняшнія дэкрэты красамоўна кажуць, што сапраўдны гаспадар Нямеччыны пачынае аб сабе казаць голасна і моцна.

*А. Він.*

# Над сьвежай магілай.

Адышоў ад нас наш малады песьняр, Міхась Явар.

Як шкада пагасшага агню, і гэтага запраўднага сына нашага беларускага працоўнага народа.

Міхась Явар, сын беднага вясковага гаспадара, цёмнага, неадукаванага, аднаго з тых, хто ад сонца да сонца палівае нашу зямельку потам, вечна капаецца, вечна працуе на сваіх касьніках загонах і на панскіх абшарах, з сухім кавалкам хлеба ў чорнай з разорамі руццэ. Працуе, здабывае багацьце і за ўсе ў нагароду адтрымоўвае пакуту, сястру нядолю ў сваю хату. Такім быў бацька нашага Міхася.

М. Явар нарадзіўся ў 1903 годзе, 8 лістапада ў в. Міневічы, Луненскае гміны, Горадзенскага павету. З самага раньняга дзяцінства, як на кожнага селянскага сына, так і на яго, «мужыцкая» доля налажыла сваю цяжкую руку.

Яна дала яму ялаўцовае пужальне і канапляную пугу. Раз пры спатканьні песьняр казаў: «пуга і каровы... каровы і пуга, пасталы, маленькая торбачка пры боку, ў якой скарынка чорнага не раз пяском абсыпанага хлеба, часам паўбутэлячкі малака, а часам і халодная печаная бульба была маей стравай і так праз некулькі гадоў, аж да сусьветнае вайны, а там вандроўка... Расея... Паварот на попел, вугальле і каменьні. Тыфус, нядоля, жабрацтва... А потым зноў, як калісь, пуга (Міхасю было 18 гадоў) і каровы, толькі прышлося ўжо пасьвіць не свае, а панскія каровы».

Пасучы сьцюдзёнымі днямі, ў дрэннай вопратцы наш песьняр прастудзіўся, што моцна адбілася на яго здароўі. А потым «неспакойныя» умовы жыцьця, «цяганіна» усё больш і больш тачылі яго арганізм.

Прырода-матка надзяліла Міхася здольнасьцю быць песьняром нашае шмат пакутнае Беларускае старонкі. Не атрымаў ён ад яе сталёвых нэрваў, якія-б адвялі руку самагубства і далі прастор разьвіцьцю маладога талента.

Стоячы над сьвежай яшчэ магілай, да сьлёз балюча ўспамінаць, што песьняр—наш Міхась — які яшчэ учора пяяў нам бадзёрыя песьні аб мінуўшчыне і будучыне нашага народа ляжыць у глыбокай магіле. Сэрца шчаміць болем пры аднэй думцы аб перадчаснай, трагічнай сьмерці.

Як шкада! За слабы ты быў, Міхаська, ня здолеў вытрымаць цяжкіх умоў жыцьця! Сьпі даражэнкі!

Хоць цяжка, але мы пойдзем наперад!

*Якім Бяздомны.*

# Нашае жыцьцё.

**Вільня.**

Даведваемся, што за чэрвень месяц у Віленскім ваяводзтве апратэставана 8400 вексялёў на 1.200.000 зл. У самай Вільні апратэставана 6800 вексялёў на суму 900.000 зл.

Безпрацоўных на 7. VIII. 33. г. налічваецца 6017 за тыдзень зьменшылася 35 чал.

**Горадня—Беласток.**

## Суд 33-ох.

І.К.С. даносіць: у акружны суд Беластока паступіў акт абвінавачаньня 33-х асоб, якія былі арыштаваны пад час забостоўкі ў Гайнаўцы.

Гісторыя гэтых падзеяў паводле „І.К.С.“ наступная: 10 траўня забаставалі рабочыя тартакоў. 13-га траўня грамада больш чым у 100 чалавек напала на паліцыю, якая хацела сілаю прабрацца на тартак. Некалькі паліцыянтаў было ранена. 16-га траўня зноў паўтарылася бойка паліцыі з рабочымі. За гэты час застала арыштавана некольні дзесяткаў рабочых. 33 з іх абвінавачаны ў камунізьме і прыцягваюцца да судовае адказнасьці.

× Лік безпрацоўных, паводле афіцыяльнай статыстыкі Горадзенскай і Беластоцкай біржы працы, ў гэтых мястох наступны: Гутнікаў 154, Мэталёўцаў 244, Тэкстыльшчыкаў 634, Будаўнікоў 226, іншых 1170, не выкваліфікаваных 2202, Земляробаў (?) 28, Умысловых працаўнікаў 948. Усяго разам 5457, у тым ліку жанчын 1556. Калі да гэтага дадаць не зарэгістраваных, якіх не абыймае статыстыка, дык лічба іх значна павялічыцца.

+ Забастоўка рабочых у Супарасьлі пад Беластокам на фабрыце Цытройна прадаўжаецца, ня гледзячы на падпісаную умову ў Міністэрстве апекі ў Варшаве праз кіраўнікоў Пэпээсоўскага саюзу. (І. К. С.).

## Ціха ў нас...

(Горадзеншчына).

Ціха ў нас цяпер... гэтую цішыню стараюцца выкарыстаць розныя польскія арганізацыі, якія агітуюць, каб прывабіць да сябе нашу моладзь. Трэба сцьвердзіць, што несьвядомая частка яе даецца злавіць на прыгожыя словы і абяцанкі.

У нас цяпер вельмі актыўна вядзе працу, так званная, „Federacja“. Да яе належаць ня толькі „urzędniki“ ці паны, але і шмат вясковых хлапцоў.

Брыдка ім, што ня займаюцца лепей, апрача штодзеннае працы, самаўсьведамленьнем і разьвіцьцём другіх. Праўда, лепшая, больш сьвядомая маса Беларускай Моладзі робіць свае. Ня маючы сваіх арганізацыяў, яна працуе, саматугам ладзячы спэктаклі, пашыраючы жывое беларускае слова.

Гэтак зімою у вёсцы Крэпачы адыгралі „Заручыны Паўлінкі“, вясною, у в. Нагорнае — „Лекары і Лекі“. У іншых вёсках таксама падгатаўлялі беларускія пьесы, хаця і не адыгралі, дзякуючы перашкодам фармальнага характару. Дык давайце будзем тварыць свае арганізацыі, праз якія панясём культуру, сьведамасьць і наша жывое беларускае слова працоўнаму люду...

*У. Т.*

## Хочам чытаць сваю газэту.

(Маладэчна).

Мы работнікі беларусы, ветліва просім паважаную рэдакцыю, высылаць нам нашу „Бел. Газ.“ Грошы, на перадплату, вышлем зараз-жа па атрыманьні газэты. Калі-б здарылася, што змушаны будзем зацягаць з заплатай, то просім не прыпыняць, а высылаць нам газэту стала. Досыць часта ў кішані ня маем ані граша. Было-б вельмі пажадана каб «Бел. Газ.» выхадзіла часьцей.

З таварыскім прыветам

*Сьвядомыя работнікі беларусы.*

## Хачу ведаць.

(Ашмяна).

Маю напісаных некалькі вершаў, але ня ведаю, дзе-бы іх паслаць у друк. Чуў я, што цяпер выходзіць часопісь пад назовам „Летапіс“, дык прашу паважаную Адміністрацыю „Б. Г.“ паведаміць, які яна мае кірунак і ці можа яна зьмяшчаць вершы? Падайце яе адрэс.

Дзеля таго, што я сам сваіх вершаў не магу належна ацаніць і ня ведаю ці будуць яны надавацца да друку, дык адзін верш пасылаю Вам, прашу разгледзіць і даць ацэнку, ці будзе ён надавацца да друку і ці варта мне далей пробаваць пісаць вершы?

*У. К.*

## Шукаюць свае газэты.

(Ашмянскі павет).

Паважаная рэдакцыя! як вышлю грошы на падпіску, дык тады прашу высылаць па два экзэмпляры разам.

Да гэтага часу я чытаў розныя газэты і беларускія, і украінскія. Доўга чакаў калі выйдзе газэта, наша беларуская, якая-б сапраўды адкрывала людзям вочы, адбіваючы наша жыцьцё.

Вось-жа цяпер дачакаўся, таго часу, калі паказалася ў сьвет „Беларуская Газэта“. Я шчыра вітаю яе і прашу паважаную радакцыю высылаць яе для мяне. Адначасна я буду пашыраць яе паміж нашым сялянствам.

*У. К.*

*Ад радакцыі.* Мы шчыра дзякуем за тое, што Вы ўжо нам прыслалі адрэсы 3-х падпішчыкаў. Пашырайце і надалей. Пішэце, што робіцца на вёсцы. Зьбірайце грошы ў фонд нашае газэты.

## Вось дык ласка.

Нядоля, цяжкія ўмовы жыцьця пхаюць нашага селяніна, бедака, зруйнаванага серадняка да пана, прымушаюць ламаць шапку, прасіць каб пазычылі чарпак збожжа, кошык бульбы, рэцгіны сена, альбо куль саломы. Смак такі мы ведаем добра, бо пазычалі праз усё свае пакутнае жыцьцё. Вось напрыклад, мой сусед у в. Баратова пазычыў у пана два возы аўсянай саломы, каб пракарміць жывёліну; за такую панскую ласку ён небарака разам з жонкаю з касою і сярпом працаваў пану аж сем дзен і задарма, бо пазычанае ўсероўна трэба вярнуць назад. Вось яна панская ласка.

*Дубок.*

**Пішэце аб жыцьці вёскі, фальварку, фабрыкі, зьбірайце грошы, каб палепшыць матэрыяльны стан „Беларускай Газэты“.**

*Кастусь Баравы.*

# Падаткі.

(Працяг).

Узрост даходаў ад прамысловасьці, гандлю, будынкаў і інш. на фоне рэзкага упадку даходаў агулам ад земляробства і малых гаспадарак ў асаблівасьці вымагаў-бы асобнага разгляду, які даў-бы надзвычай карысныя вывады, аднак гэта выходзіць па-за тэму нашага артыкулу. Сапаставіўшы гэтыя факты і без глыбейшага нават аналізу, можам сьмела выказаць сам сабою накідаючыйся вывад, што рост даходу ад прамысловасьці, гандлю і інш. пазыцыяў адбываўся коштам земляробаў, а перадусім сялянскай масы, іначай кажучы горад эксплятаваў вёску, чаму спрыялі амаль не фэодальныя стасункі на вёсцы Заходн. Беларусі і чаму ня толькі ня мог перашкодзіць крызіс, але ён у першыя свае гады нават кідаў агалеўшага селяніна ў лапы эксплятатарскага гораду і толькі ў 1931 г. струна перацягнулася і даходы ад прамысловасьці і гандлю пачалі спадаць. На рост даходаў у вышэй успомненых галінах, а асабліва ў прамысловасьці і гандлі, прычынілася напэўна і абніжэньне жыцьцёвай нормы рабочых, там занятых, праз паніжэньне заработнай платы, ставячы іх у ня лепшае палажэньне ад вясковай беднаты і гэтым ствараючы для сялян і рабочых аднолькавыя жыцьцёвыя ўмовы, так, здавалася-б, немагчымыя пры супярэчнасьці гораду і вёскі ў цяперашнім грамадзкім ладзе.

У варунках сталага і раптоўнага паніжэньня даходаў у землярабстве і ўзросту даходаў у прамысловасьці і гандлю, ад будынкаў, вольных прафэсіяў капіталаў і г. д.—удзельная вага гэтых пазыцый расла з году ў год. Аднак груба ня слушна было-б думаць, што тут маем дачыненьне з разьвіцьцём прамысловасьці нашага краю, а што за гэтым ідзе узрост дабрабыту яго жыхароў. На падставе афіцыяльных даных можна даказаць, што прамысловасьць за апошнія гады ня толькі не разьвілася, але значна скараціла сваю прадукцыйную здольнась, дык аб разьвіцьці пакуль што гаварыць ня прыходзіцца. Па-другое *агульная* сума даходу ўсёй гаспадаркі З. Б. зьмяншаецца з году ў год. Аб гэтым сьведчаць наступныя лічбы:

Агульны даход з усіх пазыцый выносіў:

„ 1929 г. — — — — 316.626.000 зл.
„ 1930 г. — — — — 298.387.000 „
„ 1931 г. — — — — 267.785.000 „

У працэнтах гэты спадак выглядае так:

1929 год — — — 100
1930 „ — — — 94
1931 „ — — — 84

Ясна, што тут мы маем справу з пераліваньнем, што раз зьмяншаючагася плыну з аднаго начыньня ў другое: агульная сума даходу гаспадаркі Зах. Бел., паміма ўзросту некаторых паасабных пазыцый—падае, а ўзрост у адных пазыцыях (прамысловасьць) адбываецца коштам другіх (земляробства). З вышэй пададзенага можна зрабіць той цікавы вывад, што эканамічны крызіс перадусім *усім сваім цяжарам падае на земляробаў (у сваёй масе пераважна сялян),* што поўнасьцю згаджаецца з фактам больш завостранага крызісу ў земляробска-прамысловых дзяржавах чым у высока прамысловых—у сусьветным масштабе.

Так выглядае, пры ўсёй нясьцісласьці лічб і ў даволі беглым аглядзе, даходнасьць гаспадаркі З. Б. у цяперашніх варунках. Характэрызуецца яна наступным: *агульным спадкам даходу пачынаючы ад 1929 г., г. зн. ад пачатку сусьветнага эканамічнага крызісу, вялікім спадкам даходнасьці земляробства агулам і катастрафальным спадкам дробных сялянскіх гаспадарак, адносным узростам даходнасьці іншых галін гаспадаркі, канцэнтруючыхся ў гарадох і каля гарадоў, коштам перадусім вясковай беднаты і рабочых.*

Так выглядае тая падстава на якой базуецца вызначаньне падстаў. Цікава было-б ведаць прычыны такога стану рэчаў, але гэта вымагае асобнай працы. Шмат аднак выясьніць нам аналіз падатковага цяжару, да чаго мы пяройдзем у наступных нумарох нашай газэты.

(Далей будзе).

### „Гэта дык газэта“.

(Наваельня, Наваградчына).

„Нажаль цяпер грошай выслаць Вам не магу, бо сам знаходжуся ў вельмі крытычных варунках жыцьця. Між іншым абавязуюся прыслаць Вам у хуткім часе. Адначасна паведамляю, што „Бел. Газ.“ у ваколіцы Наваельні, Дварэцкае гміны выклікала вельмі вялікае ўражаньне і радасьць. Кожын, хто толькі прабяжыць на яе бачынах вачыма зараз-жа скажа: „Гэта дык газэта, а ня то што там якія бязглуздыя „радыкальныя“ „Крыніцы“ і інш. Дык прашу, калі ласка, прысылаць Вашу газэту і залічыць мяне ў лік карэспандэнтаў і супрацоўнікаў“. *М. М.*

**Берасьце.**

У Подгародзкім павеце 80 маладых хлапцоў і дзяўчат спынілі працу пры пасадцы лесу з поваду нізкае зарабковае платы. Пасьля адтрыманьня падвышкі ад 90 гр. да 1 зл. 40 гр. ізноў прыступілі да працы.

**Слонім.**

У вёсках: Грынкі, Мількановічы і інш. сяляне возчыкі адмовіліся вазіць лес. Яны патрабуюць падвыжкі заробку да 1 зл. 20 гр. у дзен і 8-мі гадзіннага дня працы.

**Маладэчна.**

Абшарнікі абвясьцілі, што будзе абніжаны заробак сэзонных працаўнікоў па 25-30 прац. у дзень.

# Навіны

## Польшча

### Пераможца Атлянтыку.

2 жніўня вярнуўся ў Варшаву вядомы Польскі летнік капітан Скаржынскі, які стаў пераможцам Атлянтыку на самалеце «R. W. D. 5» польскае канструкуцыі.

### За I квартал 1933 году.

Красавік г. г. прыносіць значнае пагаршэньне ў здабычы вугля. Так за I квартал 1932 году было здабыта 9,331,127 тонаў, а ў I кв. 1933 г.— 8,223,442 тон., паменшаньне на 1,100,000 тон. за квартал. Збыт унутры дзяржавы зменшыўся на 17 прац., вываз за граніцу — на 9 прац.

Гэтак сама зменшылася і лічба рабочых: з 116,154 да 96,483, прыблізна на 22,000 чал. На гутах з 47,392 да 32,851 чал. Колькасьць безработных узрасла з 113,562 да 137,595. Прамысловых адзінак (фабрык капальняў) зьменшылася з 3,745 да 3,699.

Так выглядае 4-ы год крызысу. Паправы, як бачым, няма.

### Новыя заказы.

У сувязі з дагаворам на дастаўку для Сав. Саюзу электрычнага абсталяваньня матораў і рухавікаў, пастаўляць якія ўзялася адна з найбольшых польскіх фабрык, істнуе магчымасьць далейшых савецкіх заказаў.

Згодна з гутаркамі, якія вядуцца ў Маскве прадстаўнікамі польскай прамысловасьці, павінна быць накіравана новая партыя рухавікаў, гэнэратараў і іншых электрычных машын.

Для падпісаньня умовы, якая будзе складаць вялікую суму, маюць замер выехаць у Маскву прадстаўнікі зацікаўленых фірмаў.

### Гандаль з С.С.С.Р.

27 ліпня г. г. прыбыў да Гдыні параход „Соня Маркт“, які забярэ да Ленінграду 1800 тон цукру, закупленага „Совпольторгам“ у Польшчы для С. С. С. Р.

Пасьля гэтага „Совпольторг“ намераваецца ў бліжэйшыя часы закантрактаваць дастаўку 2000 тон рысу з Гдыньскае апрацоўні.

Трэба адзначыць, што на працягу аднаго мінулага тыдню адыйшоў да Ленінграду яшчэ адзін параход нагружаны саланінаю. („Іскра“).

### Лічбы служачых.

Галоўная статыстычная управа павядамляе: лічба дзяржаўных служачых усей Польшчы перавышае 450.000. Першае мейсца займаюць адміністрацыйныя служачыя, якіх налічваецца 185.000 З дзяржаўнай прамысловасьці на чугунцы знаходзіцца аж 147.000. Пошта, тэлеграф і тэлефон 3000. (Р. і Д.)

### Балянс за чэрвень.

Даходы за чэрвень выносяц 132.262.000 злот. Расходы — 156.238.000. Дэфіцыт складае 24.058.000 злот.

### Лік безработных.

На 29 ліпеня налічвалася безработных па ўсяму краю 213.806. Згодна газэтных вестак лічба зьменшылася на 4734.

У Варшаве 17219. За апошні час лічба павялічылася да 17271.

### Прыгавор.

З Любліна паведамляюць: гэтымі днямі акружны Суд выдаў прыгавор у камуністычнай справе, паводле якога засуджаны: б. дэрэктар гарадзенскай гімназіі Маэрсон на 10 гад., Гантбер Фарпфофэр на 6 г., Альтэр Зекерман на 4 гады, Руэр на 2 г., усе з пазбаўленьнем грамадзкіх правоў на 10 гадоў. (*ІКС*).

× У Пазнані баставалі трамвайшчыкі процiў абніжкі платы. Абніжка застала стрымана.

× Забастоўка будаўляных рабочых Кракава прадаўжаецца бяз зьмены.

× У Варшаве бастуюць будаўляныя рабочыя процiў дрэнных умоў працы і нізкае зарабковае платы.

## Заграніца

### Ваенныя манэўры ў Японіі.

Гэтымі днямі распачаліся ў Японіі вялікія марскія манэўры пад кіраўніцтвам гэнерала Мікаго. У манэўрах возьме ўдзел 175 ваенных караблёў розных разьмераў і значная лічба гідраплянаў (марскіх самалётаў).

### У Гітлера.

Міністэрства Цюрынгіі (у Нямеччыне) публічна аб'явіла, што надзвычайныя суды будуць стасавацца „не толькі да камуністаў, соцыялістаў і пацыфістаў, але-ж і да тых, хто знаходзіцца ў шэрагах гітлероўскага руху і робіць спробы рэволюцыйнага характару незалежна ад таго. ці то ў слове, ці то ў чыне“.

Даслоўна так! Дадаткі становяцца не патрэбнымі.

### Мілае жыцьцё.

У памешканьні для кэльнэроў вялікіх бэрлінскіх рэстаранаў павывешаны наступнага зьместу абвешчаньня: «Кельнеры! Прыслухоўвайцеся да размовы гасьцей. Аб усім небясьпечным зараз-жа паведамляйце камэндантаў штурмавых атрадаў».

Мілае жыцьцё! Ці-ж ня праўда? Усё на службу гітлерызму! Усё кінуто для таго, каб прыдушыць голас гневу нямецкіх народных мас.

### За 2-х штурмавікоў.

З Бэрліна паведамляюць, што за забойства двох гітлераўскіх штурмавікоў суд прыгаварыў 7 рабочых да кары сьмерці і 3-х да 15 г. крэпасьціі

### Гішпанія прызнала С. С. С. Р.

Рада міністраў у Мадрыдзе ухваліла «афіцыяльна прызнаць Сав. Саюз праз Гішпанію».

### Самалёт—Гігант.

У С. С. С. Р. распачата будова самалёта—Гіганта, імя Максіма Горкага. Самалёт будзе мець 8 матораў пры 4000 конскіх сіл. Зможа памясьціць 70 чалавек пасажыраў і 6 абслугоўваючага пэрсоналу—разам 76 чал.

На самалёце-гіганце будзе знаходзіцца перадатачная станцыя, фільмовы апарат для фатаграфаваньня, саля-сталовая, чытальня, курылка.

Першы палёт самалёта-гіганта адбудзецца 1-га мая 1934 году.

### 144 ў дзень.

Сталінградзкі таактарны завод за 2 з паловай гады выпусьціў 62.000 трактараў. Зараз завод разьвіў сваю поўную моц: выпускае штодзенна 144 машыны. У год будзе выпушчана 51.000 сталёвых коняў.

### Ці вернецца?

(П. А. Т.)

Пачынаючы ад 18-VI г.г. штодзенныя выданьня аж да гэтага часу падаюць весткі аб захадах Троцкага, маючых на мэце яго паварот у Саветы.

Згодна газэтных інфармацыяў такое заяўленьне была зроблена Троцкім турэцкай прэсе. ПАТ паведамляе, што Тэлеграфнае Агэнства Сав. Саюза была упаважнена запярэчыць гэтаму.

«Заява Троцкага турэцкай прэсе — падае «ТАСС»—не адпавядае сапраўднасьці, яна застала прадыктавана жаданьнем авантурніка, маючага на мэце ўвясьці ў абман чытачоў і грамадзтва. Троцкі быў выдалены замежы СССР, як контррэвалюцыянэр згодна з дэкрэтам ад 20-VI-1932 г. Дэкрэт застаецца ў сіле і надалей».

### Павядамляюць.

(„Г. П.“)

З Масквы паведамляюць, што старшыня савета народных камісараў Молатаў, Варашылаў і Літвінаў 25 кастрычніка г. г. маюць замер выехаць да Ангоры (сталіца Турцыі) для прыняцьця удзелу ў сьвяткаваньні 10-ці годзьдзя Тур. Рэсп.

### На сав. Украіне.

Фабрыка машын „Чырвоная Зірка“ у Зіноўеўску, „Серп і Молат“ у Ніколаеве на Савецкай Украіне распачалі масавы выраб камбайнаў для капаньня цукравых буракоў. У гэтым годзе, на бурачных палёх Сав. Украіны будзе працаваць больш 1200 уласных камбайнаў.

### У Сыбіры.

У Кузьнецку, на вугальных распрацоўках, адбыўся зьлёт ударнікаў з справаздач якіх відно, што у змэханізаваных шахтах здабыча вугля павялічылася на 250 прац.

### У Б.С.С.Р. 5 мільёнаў чалавек.

У Савецкім Саюзе налічваецца 190 розных народнасьцяў. Сярод гэтае вялікае сямы Б.С.С.Р. налічвае каля 5 мільёнаў беларусаў.

### Будынак для опэры.

У Менску ў хуткім часе будзе закончана пабудова вялізарнага будынку пад Беларускую опэру, пры якой будзе знаходзіцца Беларуская консэрваторыя з вялізарнаю канцэртнай саляй.

### 12-ці гадовы правадыр.

З Бомбэю даносяць: на чале аднаго паўстанчага атрада, які змагаецца за незалежнасьць Індыі ад Англіі, стаіць 12-ці гадовы хлапец, сын правадыра—шчэпу, які загінуў падчас апошняга паўстаньня няведама дзе.

Гэтымі днямі атрад, кіраваны праз свайго 12-ці гадовага правадыра, напаў на вёску Гелінзаі, дзе трымалася доўгая крывавая бойка з ангельскім гарнізонам. Пасьля бойкі атрад адыйшоў у горы.

### Паўстаньне ў Індыі.

Каля паўночна-заходняй граніцы Індыі пашыраецца паўстаньне тубыльцаў. Апошнія павядамленьні з Індыі паказваюць, што забурэньня праходзіць вельмі моцна. Фактам, сцьвярджаючым небясьпеку зьяўляюцца 4000 ангельскіх войск сабраных у Пешаварэ.

### Пагражае сьмерць.

Правадыру камуністычнага руху ў Італіі — Кромсьці пагражае сьмерць у турме.

У Італіі, Францыі і іншых краінах распачата кампанія ў абарону Кромсьці.

### Вялікі прабег.

20 аўтамашын пачалі вялікі рэйд з Масквы праз пустыню Кара-Кума (Цэнтральная Азія) на адлегласьць 6000 кілёмэтраў.

Аўтамабілі прайшлі першую часьць дарогі праз Эўрапейскую тэрыторыю і Уральскія горы.

Падарожа адбываецца ў надзвычайна цяжкіх умовах: страшэнная гарачыня даходзіць да 40-50 градусаў.

Машыны і людзі пакрыты пылам. Нягледзячы на такія цяжкія варункі, ні адна машына не адстала і не заўважана ніякіх дэфэктаў. («Г. П.»).

### 12 мільёнаў безработных.

Амэрыканская фэдэрацыя працы павядамляе: лічба безработных у Амэрыцы зьменшылася ад сакавіка м-ца г. на паўтара мільёны.

Зараз-жа безработных налічваецца 11-12 мільёнаў чалавек.

### Вынік вайны.

Лік людзей, забітых падчас японска-кітайскай вайны, паводле вестак з Токіо (сталіца Японіі) паказвае наступны малюнак: ад 21 верасьня 1931 да 15 ліпня 1933 г. з боку японскага забіта 2530, ранена 5896, абмарожана падчас мароза 1568 ч. Агульныя страты з боку кітайскіх войск перавышаюць 100.000 чалавек. Так японскія імпэрыялісты нясуць культуру і мір кітайскаму народу.

### У Кітайскім Туркестане.

Паводле паведамленьня з Колгану і Пэкіна, у Кітайскім Туркестане выбухла паўстаньне Мусульманскага народа. Паўстанцы пагражаюць галоўным пунктам тае правінцыі. Кітайскі Урад выслаў войска ў мэтах здушэньня паўстанчага руху, які набірае пагражаючы характар.

### Пагроза голаду ў Кітаі.

Паводле паведамленьняў з Шанхаю, паводзьдзе знішчыла засевы збожа у 250 раёнах Кітаю. Голад пагражае 100 мільёнам чалавек.

## Адказы рэдакцыі.

З. К. Карэспандэнцыі часткова карыстаем. Адрэсы падпішчыкаў пашлеце, будзем удзячны. „Бел. Газ.“ у ліку 10 екзэмпляраў для кіоскі, будзем высылаць на ваш адрэс.

У. Т. Пасланая Вамі, апошнім разам, карэспандэнцыя да друку не надаецца. Чакаем лепшых.

*П. Граніт.* Верш Ваш адзін зьмяшчаем.

У. К. „Летапісь“ выдае Т-ва Бел. Школы, культурна-грамадзкага і літэратурнага зьместу. Адрэс рэдакцыі: Вільня, Боніфратэрская 2—3.

Атрыманы грошы; Нікітіна Н., — 25 гр., ад Гарустовіча М., Томчука., Купіча Д., па — 50 гр., Цішэўскага К. Якубёнака Г., Шастка М., Лозоняка М., Венска М., Каменскага В., Майзіка М., — па 70 гр, ад Краўчаняка Л.— 75 гр. ад Орліна Д. — 80 гр. ад Грыневіча Я., Капусты Б., Мароза М., Анішчыка П., Бандысіка М., Пачобата А., Ключніка Я., Ліхочэўскага К.,—па 1 зл., ад Сакалоўскага Я. — 1 зл. 20 гр., ад Белянкі А., Міралюбова У. Казла П. Белянкі М., — па 1 зл., 30 гр., ад Лабача Л.— 1 зл. 40 гр. ад Бурналка Ф, — 1 зл. 50 гр.

**Лёс „Бел. Газэты“ залежыць толькі ад падтрыманьня масаў.**

Рэдактар-выдавец: інж. А. Карповіч.

Друкарня Я. Левіна Вільня, Нямецкая 22